# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

26.01.12-01.02.12 г.



## КАГО ВЫРАТУЕ



САЦЫЯЛЬНАЯ ДАПАМОГА

СТАР. 4–5

## З'ЯЗДЖАЮЦЬ ЗА МЯЖУ

ЯК СУСТРАКАЕМ ДЗЕНЬ НАВУКІ



СТАР. 6-7


# ЯК ПРАВАЛЫ ВЫДАЦЬ ЗА ПОСПЕХІ

Даўно было вядома, што ў Белстаце працуюць чарадзеі, але гэтым разам яны перасягнулі сябе.




*А вось урад абяцае фантастычны заробак без усялякіх заклінанняў*

### "ЖИТЬ СТАЛО ЛУЧШЕ, ЖИТЬ СТАЛО ВЕСЕЛЕЕ".

Днямі Белстат апублікаваў звесткі пра сярэдні заробак у мінулым снежні і 2011 годзе наогул. Шмат у чым яны выглядаюць шакіруючымі, бо сцвярджаюць, што "жить стало лучше, жить стало веселее".

Перадусім, афіцыйная ўстанова сцвярджае, што ў першы месяц зімы заробак беларусаў скокнуў адразу на 438 тысяч рублёў і дасягнуў 2 мільёнаў 877 тысяч. Найбольш атрымліваюць у сталіцы, што не дзіўна, аднак сярэдняя лічба усё-такі ўражвае — 3 мільёны 829 тысяч рублёў. Гэта амаль што знакамітыя "500 долараў". Ці многа сёння, пасля дзвюх абвальных дэвальвацый, тых, хто можа ганарыцца такім заробкам?

Але спрачацца з гэтымі данымі складана. Справа ў тым, што сярэдні заробак — гэта як сярэдняя тэмпература па бальніцы. Пэўна, для некага леташні крызіс быў добрай магчымасцю палепшыць свой дабрабыт. Напрыклад, для тых, хто купляў, дзякуючы сувязям, валюту па курсе Нацыянальнага банка, а прадаваў па рэальным, часам вышэйшым удвая.

Аднак наступная тэза ад Белстата прымушае сумнявацца ў адэкватнасці яго звестак наогул. Паводле версіі гэтай установы, рэальны заробак беларусаў за 2011 год павялічыўся на 1,3% (!). Самы просты спосаб абвергнуць гэтую выснову — параўнаць заробкі за снежань 2010 і 2011 гадоў. Год назад мы, паводле ўсё таго ж Белстата, атрымлівалі 532 долары ў эквіваленце, а зараз — толькі 342! Гэта рост?! Курам на смех!

> "Ці то чыноўнікі проста дураць галаву шэраговым грамадзянам, ці то ў Белстата сапраўды такія методыкі падліку, што дазваляюць убачыць плюс там, дзе відавочны мінус"

Праўда, афіцыйна Белстат у доларах не лічыць. Тады пойдзем іншым шляхам: калі крыху спрасціць, то рэальны заробак — гэта перавага абсалютнага заробку над інфляцыяй.

*Заканчэнне на стар. 3*

**МАРЫ, МАРЫ…**

**Да канца гэтага года краіна павінна выйсці на ўзровень прыбыткаў, які быў у насельніцтва ў канцы 2010 года (напрыканцы мінулага года сярэдні заробак па краіне складаў каля 500 долараў – ТіЦ).**

Пра гэта заявіў старшыня палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу **Уладзімір Андрэйчанка:** *«Нам не трэба сёння змяншаць цэны, нам неабходна паднімаць даходы насельніцтва»*, паведамляе БелТА.

*«Нам неабходна эфектыўная вытворчасць, каб рэальна павялічваць узровень прадпрыемстваў і ў выніку — узровень жыцця людзей»*, — падкрэсліў старшыня палаты прадстаўнікоў.

**ПАДЗЕЯ**

## АБАВЯЗАЛІ ВЫСТУПАЦЬ У "РАЁНЦЫ" ПА ГРАФІКУ

"Праграма ўзаемадзеяння і інфармацыйнага супрацоўніцтва райвыканкама з рэдакцыяй газеты "Лунінецкія навіны", мясцовым радыёвяшчаннем на 2012 год" трапіла ў незалежнае выданне "Информ-прогулка".

Згодна з дакументам, кожны кіраўнік, пачынаючы са старшыні райвыканкама, павінен друкавацца ў розных рубрыках "раёнкі" ў пэўныя тэрміны. Напрыклад, кіраўнік райвыканкама абавязаны правесці прамыя лініі з жыхарамі горада і раёна, выступіць у рубрыцы "Клопат мясцовай улады" ў сакавіку, чэрвені, верасні, снежні.

Больш за ўсіх «папала» начальніку аддзела ідэалагічнай работы — яму трэба друкавацца "пастаянна".

Дакумент узгоднены з галоўным рэдактарам "Лунінецкіх навін" Таццянай Вайцяхоўскай і зацверджаны намеснікам старшыні райвыканкама Віктарам Рафаловічам. Прадастаўляць інфармацыю недзяржаўнаму выданню "Информ-прогулка" чыноўнікам забаронена.

**СЛУЖБА МАНІТОРЫНГУ ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»**

# НАКОЛЬКІ ВАС ЗАСМУЧАЮЦЬ ПРАБЛЕМНЫЯ КРЭДЫТЫ?

**ХРЫСЦІНА ЛІПСКАЯ, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА:**

## "РЭЖЫМ ЭКАНОМІІ — ГЭТА НЕ ВЫЙСЦЕ".

— Для нашай сям'і праблема вельмі актуальная. Бралі крэдыт на набыццё жылля, калі метр каштаваў каля 2 тысяч долараў, а аддаваць прыйшлося, калі заробак у валюце знізіўся ў два разы, кватэру ж прадаваць не мае сэнсу, бо метр рэзка патаннеў. Разлічвалі на адзін узровень абслугоўвання гэтага крэдыту, а ў выніку дзвюх дэвальвацый крэдыт стаў нашмат даражэйшы. І сапраўды, многія неабходныя рэчы давялося адкласці на няпэўны тэрмін, пачынаючы ад рамонту ў нашай "залатой" кватэры і заканчваючы нараджэннем другога і трэцяга дзяцей. Дзякуй Богу, пратэрмінаванай запазычанасці ў нас няма. Мы шмат працуем. У нас на дваіх тры сталыя працы плюс разавыя падпрацоўкі. Я не лічу, што рэжым эканоміі — гэта нармальна. Лепш рэжым максімізацыі працы. Ад чаго можна адмовіцца катэгарычна, дык гэта не ствараць дадатковых затрат, але менш выдаткоўваць на культуру, здароўе, адпачынак — гэта не варыянт.

А жыць калі? Калі зараз эканоміць на сваім здароўі, то дзеля чаго тады гэтая кватэра і ўсё астатняе?! У 60 гадоў мне гэта ўжо будзе нецікава.

**АЛЯКСАНДР МУХА, ФІНАНСАВЫ АНАЛІТЫК:**

## "РАЮ НЕ ПРЫВЫКАЦЬ БЛІЖЭЙШЫМІ ГАДАМІ ДА СПАЖЫВЕЦКІХ КРЭДЫТАЎ".

— Калі казаць аб пратэрмінаванай запазычанасці, то пакуль яшчэ яна не набыла нейкіх крытычных памераў. Але трэба ўлічваць, што ў Беларусі ў апошнія гады адзначаўся спажывецкі бум. Рост крэдытавання на набыццё нерухомасці, будаўніцтва жылля, пакупку аўтамабіля і гэтак далей. І ў выніку гэта прывяло да такой сітуацыі, што запазычанасць фізічных асоб па крэдытах, выдадзеных банкамі, на 1 студзеня 2012 года склала 31,99 трыльёна рублёў. Яна дасягнула амаль 32 рэкордных трыльёнаў і працягвае расці! У валюце гэтая запазычанасць скарачаецца, бо крэдытаванне ў валюце ў нас забаронена з 2009 года. Запазычанасць у іншаземнай валюце некрытычная — крыху больш за 200 мільёнаў долараў. Тым не менш рублёвая працягвае расці, і трэба разумець, што існуючая крэдытная запазычанасць з'яўляецца значнай і сведчыць аб тым, што беларуская эканоміка перакрэдытаваная. У бліжэйшыя гады плацяжы па крэдытах будуць досыць сур'ёзным цяжарам для сямейнага бюджэту, таму найбольш апраўданым падаецца пагашэнне старых крэдытаў — трэба пагашаць старыя, а новыя не браць. У сярэдзіне 2011 года насельніцтва было чыстым пазычальнікам — гэта значыць, фізічныя асобы ўзялі ў банкаўскай сістэмы грошай больш, чым туды прынеслі. Да новых крэдытаў лепш не прывыкаць — працэнтныя стаўкі будуць высокімі.

**АФІЦЫЙНА**

**Праблемная запазычанасць па крэдытах, што былі выдадзены беларускімі банкамі фізічным асобам, на 1 студзеня 2012 года склала 304,9 млрд беларускіх рублёў.**

У эквіваленце гэта амаль утрая больш, чым на пачатак 2011 года. Такія даныя прыводзяцца ў статыстычнай справаздачы Нацыянальнага банка Беларусі, паведамляе БелТА.

Праблемная запазычанасць па выдадзеных крэдытах у нацыянальнай валюце склала **99,8 млрд беларускіх рублёў**, павялічыўшыся за мінулы год у 2,8 разу.

Праблемная запазычанасць па валютных крэдытах на 1 студзеня 2012 года склала **24,6 млн додлараў**, павялічыўшыся на 13,4% за 12 месяцаў, у тым ліку за снежань на 2,5%.



*Амаль невыканальная задача – падмануць працэнты па крэдытах*

**МАРЫЯ ЛУКАШУК, БАНКАЎСКАЯ СЛУЖАЧАЯ:**

## "СТАЛІ МЕНШ ЕЗДЗІЦЬ".

— Я ўзяла валютны крэдыт на пяць гадоў у 2008 годзе на пакупку аўтамабіля. Выплачваю яго акуратна, але пачынаючы з вясны 2011 года — па прычыне ўсім вядомых падзей — стала рэальна цяжка. Я надта "ўціснула" свой бюджэт: стала менш ездзіць, забылася на добрае віно і добрыя сыры, увогуле не купляю далікатэсы, да мінімуму скараціла паходы ў кафэ і рэстараны.

**ЯРАСЛАЎ РАМАНЧУК, ЭКАНАМІСТ:**

## "АСНОЎНЫЯ ПРАБЛЕМНЫЯ КРЭДЫТЫ НЕ Ў НАСЕЛЬНІЦТВА".

— Праблемныя крэдыты не могуць не засмучаць перш за ўсё крэдытораў, але доля праблемных крэдытаў насельніцтва ў параўнанні з тымі праблемнымі крэдытамі, якія маюць банкі, улады і Нацыянальны банк, проста непараўнальная. Напрыклад, даўгі Нацыянальнага банка камерцыйным банкам складаюць недзе 3,8 мільярда долараў. Нацбанк таксама мае даўгі перад урадам — каля 6,8 мільярда долараў. Таму калі гэтыя крэдыторы пачнуць патрабаваць свае грошы, то ў Нацыянальнага банка ўвогуле нічога не застанецца. А праблемныя крэдыты для дзяржаўных прадпрыемстваў у межах дзяржаўных праграм, безумоўна, могуць зруйнаваць нашу беларускую сістэму.

**ВОЛЬГА ГРЫНЕВІЧ, МЕНЕДЖАР:**

## "БЯДА № 1 — САВЕЦКАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ СІСТЭМА".

— Амерыканскія пазычальнікі вінныя сваім банкам мільярды і трыльёны — такую гару грошай проста ўявіць немагчыма. А праблемныя крэдыты беларускіх фізічных асоб… Калі ў цябе насмарк, то гэта праблема, але калі ў цябе пры гэтым інфаркт, то гэта якая праблема?! Нашы праблемныя крэдыты — гэта бяда нумар 73, а бяда нумар 1 — наша савецкая эканамічная сістэма. Нашы банкі ляснуцца не ад крызісу спажывецкага крэдытавання, а ад бяздарнасці вышэйшага кіраўніцтва.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1*

Што мы тут маем? У снежні 2010-га сярэдні заробак складаў 1 мільён 595 тысяч рублёў. Такім чынам, за год ён павялічыўся на 80%, а цэны за гэты час, нават паводле афіцыйнай версіі, узняліся на 108,7%. Гэта рэальнае зніжэнне заробкаў, а ніякі не рост!

## ГЭТА НАВАТ НЕ ПАЛІТЫКА

І ўжо нават не важна, ці то чыноўнікі проста дураць галаву шэраговым грамадзянам, ці то ў Белстата сапраўды такія методыкі падліку, што дазваляюць убачыць плюс там, дзе відавочны мінус. У любым разе гэта значна падрывае давер да афіцыйнай статыстыкі, калі ён, канешне, быў у вас увогуле.

# ЯК ПРАВАЛЫ ВЫДАЦЬ ЗА ПОСПЕХІ

Напрыканцы варта адзначыць, што снежаньскі скачок заробкаў, хутчэй за ўсё, вылезе бокам. Эканаміст **Леанід Злотнікаў** у размове з Радыё Свабода адзначыў:

— Нас папярэджвалі і з Усходу, і з Захаду, што нельга зараз павялічваць заробкі, бо няма з чаго. Трэба было ўстрымацца, але ж мы атрымалі ў канцы года даволі неблагія грошы — каля 4 мільярдаў долараў, у асноўным ад Расіі. Пакуль гэтыя грошы ёсць, на 2–4 месяцы хопіць і заробкі павысіць, і пенсіі. А потым паступленняў такіх не чакаецца, і зноў пачнуцца праблемы, як гэта было летам 2011 года.

Кіраўнік аналітычнага цэнтра «Стратэгія» эканаміст **Леанід Заіка** лічыць, што такім чынам урад, якому Лукашэнка даў час да траўня, каб выправіць становішча з узроўнем жыцця, ратуе сябе.

— У нас адбываецца неабгрунтаванае павышэнне заработнай платы, асабліва ў доларавым эквіваленце, — кажа Леанід Заіка. — Гэта, дарэчы, садзейнічае развіццю так званай інфляцыі выдаткаў. Да траўня ўрадаўцы дадуць справаздачу пра высокі ўзровень жыцця насельніцтва. Ну а потым што? Да снежня Мясніковіч дасядзіць, а потым — пенсія. Гэта нават не палітыка, гэта жаданне чыноўнікаў захаваць свае крэслы.

А для простых грамадзян гэтыя хітрыкі скончацца чарговым павышэннем цэн. Патаннее толькі рубель.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ХАЛІП НЕ ВЕРЫЦЬ У ВЕРСІЮ МУС

**Ірына Халіп, жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, не верыць у версію МУС адносна прашэння аб памілаванні, якое накіраваў на імя Лукашэнкі яе муж, піша nn.by.**

Каментуючы учарашнюю заяву прадстаўніка МУС аб тым, што прашэнне аб памілаванні Саннікаў напісаў не 20 лістапада, як ён сам паведаміў ёй, а 23 снежня, Халіп сказала:

«Улады не хацелі, каб аб напісанні прашэння стала вядома раней. Таму і прыдумалі 23 снежня, бо напярэдадні маёй прэс-канферэнцыі фактычна закончыўся тэрмін, калі папера магла паступіць у адміністрацыю прэзідэнта».

Жонка палітыка падкрэсліла: дату напісання прашэння — 20 лістапада — Саннікаў назваў ёй падчас перамоў праз шкло ў пакоі для спатканняў у калоніі «Віцьба-3» 24 студзеня.

Халіп зноў заявіла, што задача ўлады «не проста выбіць з палітзняволеных паперкі» з просьбай аб памілаванні, а «знішчыць іх фізічна».

«У іншым выпадку Лукашэнка на прэс-канферэнцыі 23 снежня размахваў бы гэтымі паперкамі, заяўляючы, што яго просяць аб памілаванні», — перакананая жонка Саннікава.

Нагадаем, на папярэдняй прэс-канферэнцыі Халіп паведаміла, што яе муж пад уздзеяннем катаванняў напісаў прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі яшчэ 20 лістапада мінулага года, знаходзячыся на перасылцы ў магілёўскай турме.



*Дагэтуль у турме два былыя кандыдаты ў прэзідэнты*

Яе словы абверглі ў МУС. Прадстаўнік міністэрства паведаміў, што прашэнне аб памілаванні на імя прэзідэнта Саннікаў падаў не 20 лістапада, а 23 снежня. Згодна з працэдурай, хадайніцтва аб памілаванні асуджаны падае праз адміністрацыю папраўчай установы, дзе адбывае пакаранне.

Адміністрацыя, у сваю чаргу, на працягу месяца павінна накіраваць хадайніцтва на разгляд прэзідэнта.

У МУС сцвярджаюць, што хадайніцтва Саннікава было накіравана адміністрацыяй калоніі «Віцьба-3», дзе ён зараз утрымліваецца, у аддзел па пытаннях грамадзянства і памілавання Адміністрацыі прэзідэнта 23 студзеня, роўна праз месяц пасля таго, як было напісана.

У Адміністрацыі прэзідэнта сітуацыю з прашэннем не каментуюць.

Як паведамлялася раней, 27 студзеня з Саннікавым мае намер сустрэцца яго адвакат. Паводле вынікаў гэтай паездкі сваякі палітыка будуць планаваць далейшыя дзеянні па яго ратаванні.

Андрэй Саннікаў асуджаны на пяць гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму паводле абвінавачання ў арганізацыі масавых беспарадкаў 19 снежня 2010 года. Адбываць пакаранне палітык павінен быў у папраўчай калоніі Наваполацка (Віцебская вобласць), аднак потым яго неаднаразова этапавалі ў іншыя ўстановы. З 8 лістапада па 20 студзеня экс-кандыдата ў прэзідэнты трымалі ў поўнай ізаляцыі — да яго не дапускалі ні сваякоў, ні адвакатаў.

### ДАРЭЧЫ

**Вось як каментуюць апошнія падзеі вакол Андрэя Саннікава грамадскія дзеячы краіны**

**Наста Палажанка, былая зняволеная СІЗА КДБ:** *«Саннікаў як быў для мяне годным і мужным чалавекам, так і застаўся. Спадзяюся, што ён хутка будзе дома са сваімі роднымі. Саннікаву цяпер важна ведаць, што мы як былі з ім, так і застаемся, мы падтрымліваем яго».*

**Павел Севярынец, асуджаны на “хімію” за падзеі 19 снежня мінулага года:** *«Рэчы, якія робяць з сённяшнімі палітвязнямі нельга назваць інакш, як мярзота. Але перад Богам давядзецца адказаць усім, у тым ліку і Лукашэнку».*

**Дзмітрый Ус, былы кандыдат у прэзідэнты:** *«Гэта яго права, яго ўчынак. Я шкадую, што так атрымалася, што не хапіла ў яго сілы духа. На яго ўскладалася столькі спадзяванняў. Калі Саннікаў адмовіўся ад сваіх ідэй, то гэта нешта ды значыць. Зламалі, атрымліваецца».*

# КАГО ВЫРАТУЕ ДАДАТКОВАЯ САЦЫЯЛЬНАЯ ДАПАМОГА

З 1 красавіка асобныя катэгорыі грамадзян Беларусі змогуць разлічваць на дадатковую сацыяльную дапамогу. Адпаведны ўказ зацвердзіў днямі галоўны гарант стабільнасці ўсяе краіны. Каму з беларусаў гэтай вясной улады дадуць на шкварку, а каму — па карку, загадзя высвятляла "Тут і цяпер".

**АФІЦЫЙНА**

*"У сістэму дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі ўключаецца забеспячэнне прадуктамі харчавання дзяцей першых двух гадоў жыцця, якое прадастаўляецца сем'ям, сярэднедушавы прыбытак у якіх ніжэйшы за найбольшую велічыню бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, устаноўленага ўрадам, за два апошнія кварталы; а сем'ям пры нараджэнні двойні ці больш дзяцей — незалежна ад сярэднедушавога прыбытку"*, — паведамляецца ў афіцыйным каментары да ўказа.

## ХТО НА НОВЕНЬКАГА?

Калі перакласці ўсё гэта з бюракратычнай мовы на чалавечую, то атрымліваецца наступнае. Прадукты харчавання для дзяцей першых двух гадоў жыцця змогуць атрымаць толькі шчаслівыя бацькі двайнят, трайнят, чацвярнят і г.д. (у 2011 годзе, ветліва падказвае Белстат, у Беларусі нарадзілася 911 пар двайнят, 18 трайнят і адзін "квартэт" немаўлят) альбо сем'і, у якіх, умоўна кажучы, кожны чалавек цягам паўгода жыве на 1 БПМ (цяпер гэта 574 790 рублёў, але з 1 лютага памер мае быць павялічаны).

*"Выбіванне" бясплатнага харчавання для дзіцяці каштавала мне месяц жыцця ў сэнсе збору ўсіх патрэбных папер,* — узгадвае мінчанка **Надзея Парэмская**. — *Можна, натуральна, справіцца і хутчэй, але з маленькім дзіцем не вельмі пабегаеш па канторах. Ад сябровак па гэтых "бюракратычных" забегах даведалася, што нам з дачушкай з "недаборам" да БПМ 5 тысяч на кожную вельмі пашанцавала, бо ў некаторых прыбытак на чалавека перавышаў той сярэднедушавы ўсяго на 20 рублёў, і ў дапамозе чыноўнікі ім адмовілі. Ды яшчэ кожныя паўгода трэба збіраць даведкі зноў, каб пацвярджаць сваю "сацыяльную неабароненасць". Не думаю, што з увядзеннем гэтага ўказа штосьці зменіцца да лепшага — усё роўна чыноўнікі будуць глядзець на нас не як на сацыяльна неабароненых грамадзян, якія ледзь-ледзь канцы з канцамі зводзяць, а як на халяўшчыкаў, якія толькі і думаюць, дзе б абдурыць дзяржаву".*

Дыяметральна процілеглае стаўленне да гэтай дапамогі дэманструе берасцеец **Сяргей Макоўскі**: *"Зроду падачак ні ад каго не браў і не збіраюся браць! Сам на ўсё зараблю — балазе, рукі, ногі, а галоўнае — галава ў наяўнасці і функцыянуюць добра. Калі даведаліся з жонкай, што чакаем двайнят, то зразумелі, што давядзецца паднапружыцца і падцягнуць паясы. Але чакаць нам яшчэ больш за паўгода, шмат чаго можна паспець зрабіць".*

> "Сацыяльнай дапамогі ўсім, хто мае ў ёй патрэбу, наўрад ці хопіць, бо ўсе жыццёвыя сітуацыі ні ў якім указе не прапішаш".

Між тым, па разліках адмыслоўцаў з Міністэрства працы і сацабароны Беларусі, пасля ўступлення ўказа ў сілу колькасць дзяцей першых двух гадоў жыцця, якія атрымліваюць прадукты харчавання без уліку сукупнага даходу сям'і, павялічыцца больш як на 20%.

Яшчэ адзін новы від адраснай дзяржданамогі закране інвалідаў І групы і дзяцей-інвалідаў, якія маюць IV ступень страты здароўя. Ім будуць кампенсавацца выдаткі на набыццё падгузкаў — у памеры да 3 БПМ і не больш як 2 разы ў год. На сёння, між іншым, 1 пачак (30 штук) падгузкаў для дарослых каштуе ад 130 да 200 тысяч рублёў, а інваліду, як вы разумееце, можа спатрэбіцца не адзін падгузак у суткі. Пры гэтым мінімальная пенсія інваліда І групы сёння складае 551 тысячу рублёў, а з 1 лютага яна павялічыцца, як і ўсе пенсіі, прыкладна на 24%.

*"І ўсё адно, колькі б ні даплацілі, нават якую капейчыну, — гэта нам палёгка,* — уздыхае гамяльчанка Антаніна Іванаўна, якая даглядае сваю старую маці-інваліда І групы. — *Я і пабегаць згодная колькі трэба за даведкамі і цыдулкамі, каб на сэканомленыя грошы парадаваць маму пачкам любімых барбарысак".*

Колькасць атрымальнікаў гэтай дапамогі, паводле разлікаў чыноўнікаў, складзе не менш як 20 тысяч чалавек, а на выплаты па ёй спатрэбіцца каля 69 млрд рублёў у год.

## ЧАСЦЕЙ І ХУТЧЭЙ

Сярод іншых змен у сістэме адрасных дапамог — павелічэнне да 10 сярэднедушавых БПМ (раней было 5. — Заўв. рэд.) максімальнага памеру адначасовай сацыяльнай дапамогі.

Па гэтую выплату могуць звярнуцца ў органы сацабароны сем'і і асобныя грамадзяне, што "аказаліся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі, якая аб'ектыўна парушае нармальную жыццядзейнасць" (да такіх сітуацый закон адносіць поўную непрацаздольнасць у сувязі з інваліднасцю ці дасягненнем 80-гадовага ўзросту, недзеяздольнасць у сувязі з хваробай, а таксама стыхійныя бедствы і катастрофы). Але зноў жа з агаворкай — пры ўмове, што сярэднедушавы даход таго, хто звяртаецца з просьбай, не перавышае 150% крытэрыю патрэбнасці. Затое звяртацца па



*Інвалідам дый іншым сацыяльна неабароненым катэгорыям не да ўсмешак*



*Буслы цяпер будуць думаць, "несці" другое ці трэцяе дзіцё*

гэтую дапамогу ахвярам стыхійных бедстваў і надзвычайных сітуацый цяпер можна будзе ажно два разы ў год, а не раз, як было раней.

Штомесячную сацыяльную дапамогу цягам 12 месяцаў (раней — 6. — Заўв. рэд.) змогуць атрымліваць некаторыя сацыяльна неабароненыя катэгорыі грамадзян: адзінокія інваліды I і II группы, адзінокія непрацаздольныя грамадзяне ва ўзросце 70 гадоў і больш; няпоўныя сем'і, у якіх бацькі даглядаюць дзяцей-інвалідаў ва ўзросце да 18 гадоў.

Абедзве названыя дапамогі ў безнаяўнай форме змогуць накіроўвацца не толькі на аплату паслуг ЖКГ, але і на пагашэнне запазычанасці па іх аплаце.

Зрэшты, гэты пункт указа суцяшае далёка не ўсіх.

*"Атрымліваецца, што мой сусед-пенсіянер, які цэлымі днямі п'е і буяніць пад дэвізам "я інвалід, у мяне жыццё цяжкае", так і будзе працягваць піць?! А яго мала таго, што не выселяць з кватэры за няўплату, дык яшчэ і запазычанасць пагасяць, у тым ліку за кошт маіх падаткаў!"* — абураецца мінчук **Сяргей Леўчанка**.

У больш сціслы тэрмін будуць атрымліваць адрасную сацыяльную дапамогу людзі, якія сталі беспрацоўнымі па прычыне ліквідацыі прадпрыемства, скарачэння штатаў: іх даход будзе разлічвацца і пераправярацца не за 12 месяцаў, як было раней, а ўсяго за 3 месяцы да моманту звароту па дапамогу.

Апошняя істотная заўвага: для ўсіх атрымальнікаў штомесячнай сацыяльнай дапамогі яе памер будзе пераразлічвацца пры павелічэнні БПМ на працягу ўсяго часу аказання дапамогі.

## НАЎЗДАГОН ЗА ІНФЛЯЦЫЯЙ

Уладныя структуры ужо ацанілі ўказ — прыкладна ў 125 мільярдаў рублёў. Менавіта столькі спатрэбіцца на выплату ўсіх адрасных сацыяльных дапамог. А вось шараговыя беларусы ацэньваюць першакрасавіцкі "падарунак" неадназначна: адны — як няўдалы жарт, другія — як пэўную падтрымку, трэція — як бясконцую падкормку праслойкі ўтрыманцаў, чацвёртыя — як заведама пройгрышную спробу не перасячы мяжу беднасці, даганяючы інфляцыю…

Былы міністр працы **Аляксандр Сасноў** не бярэцца суаднесці "папяровую" і рэальную дапамогу сацыяльна неабароненым слаям насельніцтва, але перакананы, што калі ўлічваць узровень прыбыткаў беларусаў, то тых, хто мае патрэбу ў такой дапамозе, у нас вельмі многа.

— Думаю, што надалей іх колькасць будзе толькі павялічвацца. Прынамсі, калі эканамічныя рэформы будуць адкладвацца ў спадзяванні на расійскія ўліванні. Наша краіна ўвогуле даўно і трывала сядзіць на датацыйнай ігле Расіі, і кіраўніцтва гэта, відаць, задавальняе. Натуральна, у такім выпадку нічога не зменіцца да лепшага. Сацыяльнай дапамогі ўсім, хто мае ў ёй патрэбу, наўрад ці хопіць, бо ўсе жыццёвыя сітуацыі ні ў якім указе не прапішаш. Гэта акалічнасці, якія існавалі заўсёды. На маю думку, народу трэба разлічваць не на дапамогу дзяржавы, а на магчымасць працаваць і зарабляць. Сацыяльная ж адрасная падтрымка мусіць аказвацца толькі ў крайнім выпадку, у самых неспрыяльных абставінах — аж да раздачы бясплатнай заціркі. А калі палова Беларусі апынецца ў такіх абставінах, то гэта, прабачце, капут усёй краіне і адпаведная ацэнка дзейнасці нашых улад за больш як 17-гадовую іх дзейнасць.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

**ДА ВЕДАМА**

**КОЛЬКАСЦЬ АТРЫМАЛЬНІКАЎ АДРАСНАЙ САЦЫЯЛЬНАЙ ДАПАМОГІ ЗА АПОШНІХ 5 ГОД СКЛАДАЛА:**

**2007** — 59,2 тысячы чалавек, аказана дапамога на суму каля 5,1 млрд беларускіх рублёў;

**2008** — 287 тысяч чалавек, аказана дапамога на суму 49 млрд беларускіх рублёў; сярэдні памер штомесячнай дапамогі на 1 чалавека — 57,4 тысячы беларускіх рублёў;

**2009** — звыш 140 тысяч чалавек, аказана дапамога на суму каля 30 млрд рублёў; сярэдні памер штомесячнай дапамогі на 1 чалавека — 63,7 тыс. рублёў;

**2010** — 165,4 тысячы чалавек, аказана дапамога на суму 50,8 млрд беларускіх рублёў; сярэдні памер штомесячнай дапамогі на 1 чалавека — 51,2 тыс. рублёў;

**2011** — больш як 220 тысяч чалавек, аказана дапамога на суму 90,7 млрд беларускіх рублёў; сярэдні памер штомесячнай дапамогі на 1 чалавека — 88,5 тыс. рублёў.

Паводле звестак Мінпрацы і сацабароны, у трэцім квартале 2011 года да катэгорыі малазабяспечаных адносілася 7,8% насельніцтва Беларусі, з іх дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогай у выглядзе штомесячнай і/ці аднаразовай сацыяльнай дапамогі было ахоплена 27,7%.

# РАБОЧЫ «ГРАНІТУ» АБВЯСЦІЎ ГАЛАДОЎКУ

**Кіроўца «БелАЗу» Леанід Гладзевіч пратэстуе супраць ціску на сяброў незалежнага прафсаюзу, паведамляе Радыё Свабода..**

Кіроўца «БелАЗу» на прадпрыемстве «Граніт» у Мікашэвічах Леанід Гладзевіч абвясьціў галадоўку пратэсту супраць ціску на сябраў незалежнага прафсаюзу. Ён кажа, што ўжо другі дзень галадае. Аднак паведаміць пра гэта здолеў толькі цяпер, бо знаходзіўся ў міліцыі. Леанід Гладзевіч правёў там суткі:

«Адміністрацыя „Граніту" пачала ціснуць на бацькоў маёй жонкі, каб яна, у сваю чаргу, паўплывала на мяне, прымусіўшы мяне адмовіцца ад удзелу ў незалежным прафсаюзе. У выніку бацькі нават пачалі канфліктаваць з жонкай. З-за гэтага жонка пачала канфліктаваць і са мной.

Учора раніцай я прыйшоў з працы дадому і папрасіў жонку прыгатаваць мне пасьнедаць. Але жонка адмовілася, мы пачалі сварыцца, і тут ужо міліцыя стаіць, каб мяне забіраць. Я думаю, што гэта падрыхтавана было адміністрацыяй «Граніту».

У выніку я апынуўся ў міліцыі, сёньня во толькі мяне выпусьцілі, і я другі дзень нічога ня еў,» — кажа Леанід Гладзевіч.

Спадар Гладзевіч кажа, што плянуе трымаць галадоўку да таго часу, пакуль незалежны прафсаюз на «Граніце» не даб'ецца рэгістрацыі:

«Патрабаваньні маёй галадоўкі заключаюцца ў тым, каб прыехаў старшыня аблвыканкаму Канстанцін Сумар са мной на гутарку.

Я паведамлю зараз у лякарню пра тое, што я галадаю, каб мэдыкі былі ў курсе гэтага, сачылі за маім здароўем. Я буду дабівацца, каб незалежны прафсаюз на „Граніце" зарэгістравалі і перасталі ціснуць на рабочых. Патрабую, каб Сумар даў магчымасьць атрымаць нашаму прафсаюзу памяшканьне для рэгістрацыі».

Леанід Гладзевіч зьяўляецца адным з найбольш актыўных сябраў незалежнага прафсаюзу на «Граніце», распавёў кіраўнік суполкі гэтага прафсаюзу Алег Стахаевіч.

Спадар Гладзевіч адным зь першых напісаў заяву аб выхадзе з афіцыйнага прафсаюзу, адным зь першых паставіў подпіс пад арганізацыяй суполкі незалежнага прафсаюзу на прадпрыемстве.

Леанід Гладзевіч актыўна выступаў і на сходзе працоўных з удзелам Канстанціна Сумара.

Актывіст перакананы, што незалежныя прафсаюзы павінны суіснаваць паралельна з афіцыйнымі на кожным прадпрыемстве ў Беларусі:

«Так, мусіць, прасьцей будзе разьвіваць эканоміку Беларусі, калі незалежны прафсаюз будзе бараніць інтарэсы працоўных, а афіцыйны прафсаюз будзе абараняць інтарэсы начальства».

# Р. ГАРЭЦКІ: “ДУМКУ ЗАБІЦЬ УСЁ Ж НЕМАГЧЫМА”

29 студзеня ў Беларусі адзначаецца Дзень беларускай навукі. З гэтай нагоды “Тут і цяпер” задала некалькі пытанняў акадэміку Радзіму Гарэцкаму.

## ТАМУ ШТО ТАК РОБІЦЬ БОЛЬШАСЦЬ

**— Лукашэнка не раз крытыкаваў вучоных. “Вы хоць бы часам на тэлебачанне па чарзе выходзілі б, прымаючы ўдзел у выпрацоўцы найважнейшых напрамкаў развіцця нашай дзяржавы, абараняючы нашу дзяржаву ад унутранай пятай калоны, наездаў і наскокаў збоку, і хоць штосьці выразна казалі б”, — такі папрок кінуў навукоўцам кіраўнік дзяржавы. Чаму, на ваш погляд, вучоны люд адмоўчваецца?**

— Некаторыя маўчаць таму, што так робіць большасць. Бо калі пачнеш моцна крытыкаваць уладу, то могуць і з працы звольніць... Але я не сказаў бы, што ўсе адмоўчваюцца. Многія тое-сёе гавораць. Эканамісты — таксама ж вучоныя, і яны даюць вельмі добрыя прапановы, у тым ліку і праз газеты. Былі прапановы і па іншых напрамках, але справа ў тым, што чыноўнікі не надта добра ўсё гэта ўспрымаюць...

У мяне такое ўражанне, што гэтыя папрокі і заўвагі на адрас навукоўцаў ад таго, што трэба знайсці вінаватых. У гэтым сэнсе ўжо і народ быў вінаваты, і ўрад, і апазіцыя, і прадпрымальнікі. Цяпер, відаць, чарга вучоных...

Ведаеце, мы і так ужо займаемся не фундаментальнай навукай, а прыкладной. І наша акадэмія з высокай навукі “з’ехала” ўніз. Нават калі зробяць нейкае адкрыццё, то яно, думаю, мала каго зацікавіць цяпер. Толькі калі за мяжой прэмію дадуць, тады мы адзначаем, якія мы разумныя.

> “...Але ў нас так склалася, што той жа прамысловасці (а іншым разам і сельскай гаспадарцы) часта нявыгадна ажыццяўляць нейкія інавацыі”.

**— Яно і зразумела: некалькі разоў паўтаралася, што “распрацоўкі беларускіх вучоных павінны прыносіць вялікую карысць эканоміцы”.**

— Так, але калі ўзяць падтрымку навукі ад дзяржавы, то, напрыклад, у Амерыцы на навуку ідзе 5-6 працэнтаў ад валавага ўнутранага прадукту (ВУП). А ў нас?.. Я лічу, што без добрага развіцця фундаментальнай навукі немагчыма добрая і прыкладная навука. А мы, на маю думку, ужо занадта ссунуліся ў бок апошняй...

**— Вы згодны з тым, што навукоўцы аказваюць “недастатковую практычную дапамогу дзяржаве і ў складаных, нестандартных сітуацыях не ў стане дапамагчы слушнай парадай тым, хто кіруе прадпрыемствамі”?**

— У нас і назва існуе адпаведная — “укараненне”, атрымліваецца гвалтоўная такая вытворчасць. На мой погляд, навуковыя распрацоўкі трэба не ўкараняць, а расходпліваць. Але ў нас так склалася, што той жа прамысловасці (а іншым разам і сельскай гаспадарцы) часта нявыгадна ажыццяўляць нейкія інавацыі — на гэта патрэбны дадатковыя грошы, а іх няма, ім бы, дай Бог, так пратрымацца... Сістэма ўкаранення навуковых распрацовак у вытворчасць у нас слабаватая.

## АКАДЭМІК АКАДЭМІКУ РОЗНІЦА

**— Днямі па тэлевізары чула, што старшыня Прэзідыума НАН Беларусі Анатоль Русецкі чарговы раз заявіў пра змены ў сваёй структуры...**

— Нас увесь час рэфармуюць: давайце не так, а гэтак сядзем, як у басні Івана Крылова. Мы ўвесь час “перасаджваемся”.

**— Некаторыя высокія службовыя асобы маюць вучоныя ступені. Як вы думаеце, ад гэтага ёсць пэўная карысць?**

— Канешне, “аступенены” чалавек разумее больш, глядзіць глыбей. Але, на жаль, акадэмік акадэміку розніца, як і доктар доктару.

**— Некалькі гадоў таму многа казалі пра адток моладзі з навукі. Можа, сітуацыя выправілася?**

— На жаль, не. Гэта агульная бяда. Ёсць такое і ў нас, і ў Расіі таксама. Вось я ведаю, што па лініі геалогіі ў Акадэ-



*Маладых, жадаючых займацца навукай на Радзіме, больш не становіцца*

### З АСАБІСТАЙ СПРАВЫ

**Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі, беларускі вучоны-геолаг, грамадскі дзеяч, акадэмік.**

**Сын Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага, аднаго з заснавальнікаў і першых правадзейных членаў Беларускай акадэміі навук, пляменнік Максіма Гарэцкага, выбітнага беларускага пісьменніка.**

**З 1992 па 1997 год Р.Г.Гарэцкі быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі.**

### ПЫТАННЕ Ў ЛОБ

## ЯК ЖЫВЕЦЦА Ў НАШ ЧАС НАВУКОЎЦУ?

**Доктар навук прафесар Алег Манаеў адказвае шчыра: дрэнна жывецца.**

— Не буду казаць за ўсіх навукоўцаў: ёсць больш заслужаныя людзі, у якіх даходы, магчыма, большыя, — кажа Алег Цімафеевіч. — Я атрымліваю 300 з хвосцікам долараў у рублёвым эквіваленце. Працую ў БДУ — выкладаю там з ліпеня 1976 года.

Мая жонка інвалід першай групы, яе пенсія па інваліднасці складае мільён сорак тысяч.

Вось якраз сёння заплаціў за кватэру і электрычнасць — 400 тысяч. Плюс прадукты, лекі. На адзенне наогул практычна не трацім, жывём ад зарплаты да зарплаты. У нашым з жонкай выпадку значная частка грошай ідзе менавіта на медыкаменты. Вось і лічыце...

Але я не скарджуся. Лічу, што адношуся да так званага беларускага сярэдняга класа...

мію навук амаль што ніхто не ідзе — малыя заробкі. А да таго часу, пакуль не абароніш дысертацыю, атрымліваеш зусім мала, калі ж пойдзеш у вытворчасць, то табе адразу прапануюць 1,5—2 мільёны. Нядаўна павялічылі стыпендыі аспірантам, але быў час, калі малады чалавек пасля заканчэння аспірантуры пераходзіў у малодшыя навуковыя супрацоўнікі і атрымліваў менш, чым аспірант. Не ведаю, выправілі гэта ці не, але такая недарэчнасць мела месца.

У нашай навуцы кепска з "узростам": моладзі мала, а без змены пакаленняў вельмі цяжка. Вось у геалогіі, для таго каб стаць сапраўдным кандыдатам, а тым больш доктарам навук, трэба адпрацаваць 10—15 гадоў. Таму не адразу возьмеш Бога за бараду!

Многія маладыя з'язджаюць за мяжу — там больш свабоды.

**— Акадэмік Аляксандр Вайтовіч у сваіх інтэрв'ю не раз сцвярджаў: беларуская навука знаходзіцца ў цяжкім стане. Вы з ім згодны?**

— У прынцыпе, мы не ў гару ідзём, а спускаемся з яе, так што ён мае рацыю. І што будзе далей, ніхто не ведае. Але думку забіць усё ж такі немагчыма. Калі ты навуковец, то ўсё роўна будзеш працаваць, думаць, нават і без грошай, як той Каралёў ды іншыя вучоныя пры сталінскім часе: яны сядзелі ў турмах і працавалі ой-ёй як! Ці ўзяць таго ж Мікалая Іванавіча Вавілава: ён быў ледзь жывы, але дапісваў манаграфію. Таму сапраўдны навуковец будзе працаваць, нягледзячы ні на што...

**МАРЫНА МІТ**

**МАЙЦЕ НА ЎВАЗЕ**

## АКАДЭМІЯ НАВУК АДЧЫНЯЕ ДЗВЕРЫ

Як паведамляе прэс-служба Акадэміі навук, для ўсіх жадаючых — дзяцей, моладзі, дарослых, арганізаваных груп і індывідуальных наведвальнікаў, для тых, каму цікавыя навука і культура Беларусі, адкрые дзверы Музей гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дзе прадстаўлена гісторыя з моманту з'яўлення першага чалавека на беларускіх землях і па цяперашні час.

# САЛІДАРНАСЦЬ СУПРАЦЬ ДЫКТАТА

**Амаль з месяц усе цікаўныя да беларускіх праблемаў сайты, выданні і электронныя СМІ надрукавалі і абвесцілі інфармацыі аб акце салідарнасці, які здарыўся ў Магілёве на падтрымку вядомага грамадскага актывіста і будаўніка Аляксея Паўлоўскага.**



*Салідарнасць пакуль толькі мацуецца*

## НЯДОЎГА ПЕРШЫМ НУМАРАМ

Але першым нумарам у беларускай інфармацыйнай прасторы вестка гэтая праіснавала нядоўга. Ужо ледзь не праз усяго пару дзён яе змяніла іншая: -- сталася вядома, што спачатку двое з 15-ці, а ўслед за імі і астатнія рабочыя з брыгады А.Паўлоўскага адклікалі свае подпісы пад узгаданай заявай. Засталіся ў сваёй цвёрдасці двое рабочых.

А што здарылая з іншымі?! Яны прынялі сваё рашэнне, канешне ж, не з прычыны самастойнага перадумання, – маўляў, сабраліся рабочыя за кубкамі піва пасля працоўнага дня, падумалі-пакумекалі і перадумалі. Абылося гэта ў выніку ўсебаковага і шчыльнага ціску, што адчулі на сабе рабочыя.

Улада дзейнічала звыклым для сябе спосабам, вядомым як "падзяляй і валадар". Маўляў, у адміністрацыі ёсць права не адпускаць у пэўных сытуацыях рабочых проста так, на іхнае жаданне… ды і вось-вось будзе падвышаны заробак… а што тычыцца рытмічнасці будоўлі, то яна сталася прыярытэтнай у Акцыянерным таварыстве… прафсаюз будоўлі ўшчыльную цяпер заняўся ўмовамі працы і быту людзей…

## ТРЭБА ПАЧЫНАЦЬ СА СТВАРЭННЯ ЯЧЭЕК

Але справа цяпер не ў тым, каб раскрыць падобныя "выхаваўчыя меры". Справа ў тым, каб паведаміць аб тым, што ў выніку іх Аляксей Паўлоўскі застаўся практычна адзін, сам на сам з сваім папярэджаннем і сам на сам з пагрозай свайго чарговага звальнення… А ці магло быць іначай?! Вось як на гэтае пытанне адказалі –

**Барыс БУХЕЛЬ, старшыня праўлення Магілёўскага праваабарончага Цэнтру:**

- Пакуль у рабочых не будзе магчымасці стварыць сапраўдныя свае прафсаюзныя арганізацыі па месцы працы, нават і па брыгадах, калі яны вырашаць, што гэта ім патрэбна, то нічога добрага чакаць не даводзіцца. У горадзе Магілёве, у прыватнасці, ужо шмат год не ўдаецца афіцыйна зарэгістраваць гарадскую арганізацыю ніякага незалежнага, недзяржаўнага прафсаюза. Улада ўпарта і незаконна не дазваляе гэтага зрабіць. Адпаведна, няма магчымасці стварыць і нейкія яе філіялы. На гэтай будоўлі, пра якую гаворка, ніхто не паспеў стварыць пярвічную суполку, ды і ад каго такая магла б быць, калі няма гарадской ці раённай?! Вось людзі і засталіся, калі наспела неабходнасць, безабароннымі перад адміністрацыяй. А іхных справядлівых эмоцый, што цалкам зразумела, бо людзі жывыя, а зусім неабавязкова героі, надоўга не хапіла. Так што пачынаць трэба з стварэння ячэек незалежных прафсаюзаў, бо нельга разлічваць выключна на геройскую стойкасць і трываласць людзей у канфліктах з начальствам і з уладай, значна больш моцнымі ў параўнанні з звычайнымі грамадзянамі.

**Зміцер САЛАЎЁЎ, старшыня абласной арганізацыі БНФ:**

- Ды тут, як бачыцца, збеглася шмат акалічнасцяў і столькі ж недапрацовак з боку рэгіянальных дэмакратычных структураў. Відавочна выявілася, і не першы раз, на жаль, адарванасць таго, што адбываецца ў працоўных калектывах, з тым, чым жывуць палітычныя і іншыя грамадскія структуры. Іхнаму наспеламу збліжэнню не надта дапамаглі, як бачым, і нядаўнія Народныя сходы, ды і іншыя акцыі і мерапрыемствы, што час ад часу ладзяць палітычныя структуры. Канешне, улада робіць усё і нават больш, каб не дапусціць грамадзянскай і асабліва рабочай салідарнасці ў такіх маштабах, якія б рэальна пагражалі яе спакойнаму існаванню. Вядома, як так званая "адваротная сувязь" паміж грамадствам і ўладай пагоршылася і сапсавалася яшчэ болш, чым была заўсёды. Я пра законы ў галіне свабоды і пратэстных выяўленняў, што былі нядаўна прынятыя ў краіне, і якія па-просту зрабілі немагчымі ніякія палітыка-грамадскія і іншыя масавыя ды і хоць бы зусім сціплыя праявы і выступы. Вось яна, улада, і задушыла магілёўскі і мікашэвіцкі рабочыя пратэсты. Ад перасцярогі, бо насамрэч яна, улада, знае рэальны стан грамадства, сапраўдны стан жыцця людзей. А значыць адчувае і той пратэстны градус у грамадстве, які падвышаецца. І гэта насамрэч сведчыць не аб сіле, а аб слабасці ўлады, аб яе няўпэўненасці ў бясконцай да сябе лаяльнасці і цярпімасці грамадства. Дапамагчы нам зможа толькі салідарнасць – і рабочая, і грамадзянская, і палітычная. А не будзе яе – не пераможам.

**ВІКТАР ВОЙТ**

# КАМУНАЛЬНІКІ: «АДКЛЮЧАЕМ УСЁ, ШТО МОЖАМ»

ЖЭСы перакрываюць даўжнікам нават каналізацыю! А святло могуць адключыць, нягледзячы на тое, што вы за яго заплацілі, паведамляе http://euroradio.fm.

На основании договора найма (технического обслуживания) жило помещения предлагаем вам в течение 5-х дней с момента получен настоящего ПРЕДПИСАНИЯ погасить просроченную задолженность 1 января 2012 г по начислениям в размере 314.13 руб

В том числе по услугам :

| Услуга | Сумма | Услуга | Сумма |
|---|---|---|---|
| Обезвреживание ТБО | 1 519.12 | Отч. на кап.ремонт | 18 958.76 |
| Отопление | 35 755.48 | Вода-канализация | 25 500.34 |
| Подогрев воды | 27 055.85 | Возмещ.земельн.налога | 314.16 |
| Техобслуживание ЗПУ | 4 012.07 | Вывоз ТБО | 5 129.35 |
| Тех.обслуживание | 18 958.76 | ТВ-программы | 18 590.24 |

и пени в размере 4024.99 руб
Итого: 4339.12 руб

В случае неуплаты задолженность будет взыскиваться в судебно порядке. В соответствии с п.8 Постановления Совмина РБ №1466 о 16.12.2005г РСЦ вправе приостановить задолженнику предоставлени коммунальных усл...

...СПРАВОЧНЫЙ ЦЕНТР ЖЭУ... ДЛЯ СПРАВОК

Начальник Р... ...Верич Т.В.

Специалист по расчётам

*Супраць дакументаў не папрэш*

Еўрарадыё даведалася, за якія даўгі ЖЭС адключае камунальныя паслугі і колькі каштуе падключыць іх назад…

Звычайна ЖЭСы разбіраюцца з неплацельшчыкамі проста — адключаюць камунальныя паслугі.

*“Гарачую, халодную ваду… Электраэнергію таксама. Усё што можам! Нават каналізацыю перакрываем”*, – прызнаюцца Еўрарадыё ў **разліковым цэнтры Ленінскага раёна**. Але часцей за ўсё неплацельшчыкі застаюцца без святла.

**ЖЭС:** *“У асноўным, усе рэагуюць адразу на адключэнне электрычнасці. Таму ваду адключаем ужо ў вельмі выключных выпадках!”*

За які доўг ЖЭС мае права адключыць камунальныя паслугі? Па словах камунальнікаў, сума запазычанасці неістотная – яна можа быць і невялікай. Калі гаспадар не плаціць за паслугі месяц ці больш, яму маюць права адключаць камунальныя паслугі (згодна з пастановай Саўміна №1466), кажуць у ЖЭС №86 Мінска.

**ЖЭС:** *“Калі жылец не аплачвае, яго павінны папярэдзіць. Гэта значыць, калі ў яго ёсць запазычанасць за месяц ці больш. Абавязкова ўладальніка кватэры папярэджваюць, і калі на працягу 3-х дзён ён не заплаціць, ёсць загад Міністэрства ЖКГ, па якім мы можам адключаць камунальныя паслугі – ваду, каналізацыю, электраэнергію таксама адключаем”.*

Адключыць камунальныя могуць нават калі за адзін з месяцаў вы недаплацілі ўсяго тысячу… Ці нават менш! Тлумачаць у разліковым цэнтры Кастрычніцкага раёна:

*“Напрыклад сёння 26-га студзеня, а вы ўчора не паспелі заплаціць за снежань. І за лістапад у вас яшчэ недаплачана тысяча, напрыклад. Не важна, колькі… Хоць да тысячы! Лічыцца, што гэта два перыяды. І за гэта ўжо можна адключаць”.*

Супрацоўніца ЖЭС №100 сталіцы адключэнне электрычнасці называе апошняй магчымасцю дагрукацца да сумлення жыхароў:

*“Гэта як мера барацьбы, таму што ўсе магчымасці мы ўжо вычарпалі. Ужо не ведаем, што рабіць з імі. Не хочуць людзі плаціць”.*

Камунальнікі скардзяцца на заканадаўства, кажуць, што нельга адключаць электрычнасць, калі ў сям’і ёсць дзеці да 18 гадоў... У Канвенцыі аб правах дзіцяці прапісана, што дзеці маюць права на здароўе, бяспечныя ўмовы жыцця.

*“Калі ў сям’і ёсць непаўналетнія дзеці, то мы не маем права адключаць, – тлумачаць у ЖЭС №86. – Калі кватэра падзеленая на некалькі асабовых рахункаў, і адзін з жыхароў плаціць спраўна, а другі гадамі не аплачвае, то практычна нічога не зробіш. У гэтым сэнсе ў заканадаўстве ёсць недапрацоўкі”.*

Электраэнергію могуць адключыць нават калі вы спраўна за яе плаціце! Гэта робяць, калі ёсць запазычанасць за іншыя паслугі, таму што электрычнасць адключыць прасцей за ўсё. Не абавязкова, каб гаспадар быў дома.

*“Мы не адключаем электраэнергію, мы спыняем тэхнічнае абслугоўванне электрашчытка”.*

Каб у кватэры зноў з’явілася святло, вада і запрацавала каналізацыя неабходна не толькі цалкам пакрыць запазычанасць, але яшчэ і заплаціць за падключэнне, тлумачыць юрыст ЖЭСу.

**Юрыст:** *“Падключаюць паслугі пасля аплаты запазычанасці цалкам, плюс яшчэ аплата за саму працу – за падключэнне. Электрыкам ЖЭСа або сантэхнікам… гледзячы, што адключана. Падключаюць у тэрмін не больш за 2-е сутак пасля падачы квітанцыі”.*

За падключэнне электраэнергіі трэба заплаціць 12840, падключэнне вады ў суме будзе каштаваць каля 17 тысяч, а вось каб спецыялісты знялі пробку з каналізацыйнай трубы, трэба аплаціць ажно 110 тысяч.

**НАСТА МАНЦЭВІЧ**



**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 26.01.12
Тыраж 299 экзэмпляраў